

Фота: Дар'я Палікарпава

# 1. ЗАТРЫМАННІ І СУДЫ



На акцыі ў Мінску 1 лістапада затрымалі ***Гэніка Лойку*** — знанага скульптара, вядомага абаронцу беларускай мовы, змагара за беларускамоўную адукацыю, арганізатара ўнікальных скульптурных пленэраў «Легенды з пяску». Але, напэўна, ён найбольш вядомы як аўтар помніка Тадэвушу Касцюшку ў Косава, за які ён высакародна адмовіўся браць грошы.
3 лістапада скульптар атрымаў 20 сутак арышту.

2 лістапада актрысаТэатра беларускай арміі ***Алеся Клачко*** была затрыманая, з'явіўшыся па позве ў Цэнтральны РУУС "для размовы". Як паведаміў яе калега ***Алег Бабуль***, "***раней Алеся ўдзельнічала ў здымках відэароліка Freedom Belarus, пасля чаго ў яе дома быў праведзены ператрус***".
Пасля суду 3 лістапада Алесю вызвалілі, прызначыўшы выплаціць штраф **30** базавых велічынь (**810** рублёў).





***Таццяна Галуза***, выкладчыца Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў, харавая дырыгентка, была затрыманая 2 лістапада. Магчыма, затрыманні дырыжораў звязаныя з паляваннем на «лятучыя хары».
Таццяна атрымала штраф у **30** базавых велічынь (**810** рублёў) за "пікетаванне ў Вялікім тэатры оперы і балета".

Фота: Новы час, Facebook

Падчас канцэрта ў двары каля Рыгі 3 лістапада былі затрыманыя: музыкі праекту “Радыё Каранцін” ***Іван Арцімовіч*** (Vuraj, атрымаў **7** сутак), ***Андрэй Аляксеенка*** (Тонкіход і Ірдарат, атрымаў **10** сутак), ***Філіп Петчанка*** (Dee Tree, Vuraj; атрымаў **12** сутак), а таксама літаратар ***Сярж Мядзведзеў*** (атрымаў **10** сутак) і ***Аляксандр Белік*** (атрымаў **7** сутак), якія дапамагалі складваць інструменты. Частку інструментаў канфіскавалі.

4 лістапада прадстаўнікі сілавых структур забралі са сваіх працоўных месцаў у Філармоніі артыста камернага хора ***Дзяніса Іванова*** і віялянчэліста ***Аляксандра Сердзюкова***, якія былі удзельнікамі акцый з ***Вольным хорам***. 6 лістапада суд пакараў музыкаў **15** суткамі адміністратыўнага арышту.






Увечары 4 лістапада па ўсім Мінску мэтанакіравана затрымлівалі музыкаў, якія давалі канцэрты ў розных дварах па Мінску і падтрымлівалі музыкай маршы. Усяго затрымана больш за 10 чалавек, у тым ліку барабаншчыкі з гурта "Патрабуем разысціся". Вядомыя наступныя прозвішчы затрыманых:

***Антон Карыцкі***, ***Алена Панамарова***, ***Максім Корзун***, ***Аляксандр Гадоўнікаў***, ***М.А.Галянтава***, ***А. В.Бержнікаў***, ***Цімата Суладзэ*** (затрыманы ў Сухарава, атрымаў **15** сутак арышту), ***Мікіта Камянецкі*** (затрыманы ў Малінаўцы), ***Іван Мінчанка***, ***Іван Кабашнікаў***.



5 лістапада пасля дваравога канцэрта ў Мінску затрымалі вакаліста гурта «Мутнаевока» ***Яўгена Змушку***. 6 лістапада Яўген атрымаў **15** сутак адміністрацыйнага арышту.

6 лістапада пасля выступу ў адным з Мінскіх двароў затрымалі паэта ***Паўла Горбача***. 9 лістапада суд пакараў Паўла **15** суткамі арышту.



6 лістапада суд аштрафаваў мастачку і дызайнерку ***Аляксандру Гушчу*** на **593** рублі за ўдзел у жаночым маршы 6 кастрычніка.
Аляксандра вядомая на ўвесь свет: у дзяцінстве яна трапіла ў страшны пажар і засталася без рук, але нягледзячы ні на што, жыве поўным жыццём: малюе, танчыць, займаецца косплэем.
Падтрымаць Аляксандру ў суд прыйшло столькі людзей, што зала змагла змясціць толькі трацiну.



Фота: Telegraf.by, Facebook, Белсат




**8 ЛІСТАПАДА ПАДЧАС ШЭСЦЯ БЫЛІ ЗАТРЫМАНЫЯ БОЛЬШ ЗА 1000 ЧАЛАВЕК. СЯРОД ІХ:**

– актор тэатра імя Горкага, Маляваныч з “Калыханкі” ***Аляксандр Ждановіч***;
– дызайнер і мастак ***Уладзіслаў Стальмахоў*** разам з дачкой, дызайнеркай ***Настай Стальмаховай***;
– прадусар і рэжысёр ***Яўген Шапчыц***;
– адзін з вядучых беларускіх лацяністаў і скарыназнаўцаў ***Алесь Жлутка***;
– актор і рэжысёр ***Юры Дзівакоў-Душэўскі*** (штраф **10** базавых велічынь);
– кітабіст, філолаг і гісторык мовы ***Міхась Тарэлка***;
– перакладчыца ***Алена Траццякова*** (штраф **10** базавых велічынь),
– былы актор Цырка дзю Салей ***Сямён Букін***;
– фатографка ***Вольга Бігель*** (справу даслалі на дапрацоўку, Вольгу адпусцілі).





7 лістапада пасля дваравых канцэртаў затрыманыя адзін з найлепшых беларускіх саксафаністаў, флейтыст, клавішнік, кампазітар, джазмэн ***Павал Аракелян*** (атрымаў **15** сутак арышту) і музыкі з гурту “Рэха”: ***Андрусь Такінданг***, Ігар Асідчанка, Канстанцін Лісецкі, Леанід Паўлёнак.

# 2. ЦІСК, ЗВАЛЬНЕННІ, АДЛІЧЭННІ




**МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ АДМЯНІЛА МІЖНАРОДНЫ МІНСКІ КІНАФЕСТЫВАЛЬ "ЛІСТАПАД". АФІЦЫЙНАЯ ПАДСТАВА – ЭПІДЭМІЯ КАРАНАВІРУСУ.**

Пры гэтым кінатэатры працягваюць працаваць у звычайным рэжыме. Напярэдадні кінафестываль адмовіўся ад традыцыйных прызоў ад ***Лукашэнкі*** – ўзнагароды «За гуманізм і духоўнасць у кіно» і прыза «За захаванне і развіццё духоўнасці ў кінамастацтве». Таксама з сайту кінафестывалю прыбралі інфармацыю пра кіраўніка "Белай Русі" ***Генадзя Давыдзьку***, які 10 год быў старшынём журы.

**«ГЕРОЙ УСІХ НАШЫХ ФІЛЬМАЎ – ЧАЛАВЕК СВАБОДНЫ І СТВАРАЮЧЫ. СЦВЯРДЖАЦЬ ГЭТА – НАША МІСІЯ ТУТ І ЦЯПЕР», –** ГАВОРЫЦЦА Ў КАМЕНТАРЫ КАМАНДЫ ФЕСТЫВАЛЮ.

2 лістапада з Акадэміі мастацтваў адлічылі ад ***6 да 14 студэнтаў***. Выкладчыкі і супрацоўнікі Акадэміі запісалі відэазварот у падтрымку студэнтаў, якія, на іх думку, адлічаныя па палітычных матывах.

**“МЫ АДКРЫТА ВЫСТУПАЕМ СУПРАЦЬ АДЛІЧЭННЯ СТУДЭНТАЎ. МЫ ЛІЧЫМ ДЗЕЯННІ АДМІНІСТРАЦЫІ АКАДЭМІІ НЕЗАКОННЫМІ, БО СТУДЭНТЫ БЫЛІ АДЛІЧАНЫЯ ЗА СВАЮ ГРАМАДЗЯНСКУЮ ПАЗІЦЫЮ, І НІЯКІХ ІНШЫХ ПРЫЧЫН НЕ БЫЛО”**, – ГАВОРЫЦЦА Ў ЗВАРОЦЕ.



2 лістапада з Радыё Гродна звольніўся гукарэжысёр ***Аляксандр Маршмыш***.
Прычынай звальнення стаў маральны выбар, перад якім Аляксандра паставіла кіраўніцтва і які супярэчыў яго каштоўнасцям.
***“Нельга ісці на кампрамісы са сваімі перакананнямі”***, – сказаў ён у сваім відэазвароце.



4 лістапада звольнілі яшчэ двух артыстаў Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра: ***Паліну Левіну*** і ***Аляксея Станогу***.
Пра гэта расказала артыстка драмтэатру ***Натальля Лявонава***, якую звольнілі раней.
Агулам адтуль звольнілі ўжо ня менш за 14 працаўнікоў.




# 3. АДКРЫТЫ ЛІСТ ПРАДСТАЎНІКОЎ КУЛЬТУРНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ

ЗА НЕКАЛЬКІ ДЗЁН БОЛЬШ ЗА **800 ПРАДСТАЎНІКОЎ І ПРАДСТАЎНІЦ** БЕЛАРУСКАЙ ТВОРЧАЙ СУПОЛЬНАСЦІ ПАДПІСАЛІ ЗВАРОТ, У ЯКІМ ЯНЫ АСУДЖАЮЦЬ ЗВАЛЬНЕННЕ ВЯДУЧЫХ МУЗЫКАЎ З ВЯЛІКАГА ТЭАТРА БЕЛАРУСІ ЗА АДКРЫТАЕ ВЫКАЗВАННЕ СВАЁЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ПАЗІЦЫІ І ПАТРАБУЮЦЬ СПЫНІЦЬ ЦІСК НА ДЗЕЯЧАЎ І ДЗЯЯЧАК КУЛЬТУРЫ І МАСТАЦТВА.

Photo Credit: Telegram, Facebook

# 5. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ




Фота: Facebook

***"Вольны хор"*** – з'яўляецца <u>непрадказальна</u>, выконвае літаральна пару кампазіцый і знікае.
Ён арганізаваўся адразу пасля выбараў, тады да яго далучаліся розныя людзі, спачатку супрацоўнікі Філармоніі, а пасля і іншыя музыкі. Усведамляючы, што кожнага з удзельнікаў могуць высачыць і арыштаваць, музыкі аднак працягваюць ладзіць нечаканыя акцыі.

***"Усе мы чакаем, пакуль па нас прыйдуць. Некаторыя ўжо дачакаліся. Але што рабіць? Справа ў тым, што так, як яно цяпер, быць не павінна. Смелыя людзі думаюць пра будучыню. Страх і пераадольваецца такім чынам. Мы гэта робім дзеля будучыні народа. Але і сваю будучыню ніхто не адмяняў. Гэта ўжо не гульня. Гэта сапраўдная барацьба за сябе".***

***188 супрацоўнікаў Вялікага тэатра Беларусі*** падтрымалі звольненых на мінулым тыдні калег і <u>заклікалі</u> дырэкцыю тэатра перагледзіць сваё рашэнне.

***Лявон Халатран***, які кіраваў руін-барам ОК16, быў валанторам штаба ***Віктара Бабарыкі*** і які з 14 жніўня знаходзіцца ў СІЗА на Валадарскага, дасылае адтуль вельмі кранальныя і творчыя малюнкі, казкі, арыгамі для сына і жонкі, каб падтрымаць іх.
Фота і відэа гэтых чароўных лістоў – <u>па спасылцы</u>




Photo Credit: Telegram, Facebook

НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЗАТРЫМАННІ МУЗЫКАЎ І ЗЛІЎ АСАБІСТЫХ ДАДЗЕНЫХ ЖЫХАРОЎ ГЭТЫХ ДВАРОЎ, ЯКІЯ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ ДВАРВЫЯ КАНЦЭРТЫ, НЕ ЗВАЖАЮЧЫ НА НАДВОР'Е І ПАСТАЯННЫ ЦІСК З УСІХ БАКОЎ, ЛЮДЗІ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ЛАДЗІЦЬ У СВАІХ ДАМАХ МЕРАПРЫЕМСТВЫ І АБАРАНЯЦЬ ІХ АД НЕЗАКОННЫХ ДЗЕЯННЯЎ УЛАДАЎ.












# 5. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



Дызайнер з усясветным імем ***Уладзімір Цэслер***, чые працы выстаўляюцца ў Луўры, а таксама ў музеях і галерэях Амстэрдама, Будапешта, Сафіі, Варшаве, напрыканцы жніўня ўвайшоў у склад Каардынацыйнай рады – і амаль адразу з'ехаў з Беларусі, бо за публікацыі з малюнкамі на тэму выбараў і гвалту яго маглі прыцягнуць да крымінальнай адказнасці. У размове з парталам Tuzinfm Уладзімір распавёў, што сутнасць беларусаў – любоў, як ён не чакаў такой салідарызацыі і як усё гэта натхняе на творчасць. ***"І любоў перамагае ўсё адно. Нацыя аб'ядналася. Мне здавалася, што гэта немагчыма – але гэта здарылася"***.



***Сяргей Курыленка***, звольнены за забастоўку рэжысёр-пастаноўшчык Гарадзенскага драматычнага тэатра, распавёў пра сваё звальненне і жыццё пасля гэтага важнага крока.
***"Мы мусім рабіць нейкія крокі, якія б складаныя яны для нас ні былі. Хоць штосьці трэба рабіць, па сваіх сілах і магчымасцях. Іначай нас чакае жах без канца".***

***Аляксандр Ждановіч***, актор тэатра імені Горкага, экс-вядоўца "Калыханкі", у гутарцы з tut.by расказаў пра сваё стаўленне да пратэстаў, пазіцыю як культурнага дзеяча і эвалюцыю поглядаў.
"***Доўгі час я лічыў, што палітыка – гэта вельмі вузкая сфера, якая вядзе да таго, што я не люблю, – фальшы, падтасоўванне, мана, бруд у рэшце рэшт. Таму гэтая сфера была мне чужая. Пры тым ёсць панятак грамадзянскай пазіцыі, грамадскай актыўнасці. Альтэрнатывы няма, бо ад гэтай сферы залежыць наша жыццё"***.





Паэт ***Дзмітры Строцаў***, які 3 лістапада быў вызвалены пасля **13** сутак, падзяліўся сваімі "ўражаннямі" ад арышту з Нашай Нівай.
За некалькі крокаў ад пад'езда Дзмітрыю надзелі на галаву мяшок, пагрузілі ў мікрааўтобус і завезлі ў КДБ, пасля ў РУУС, на Акрэсціна і ў Жодзіна.
***"Я даў шмат інфанагодаў, занадта шмат, і свабодна публікаваў матэрыялы на фэйсбуку. У іх ёсць пункцік, што яны шукаюць лялькаводаў і арганізатараў, але размовы ў нас не атрымалася".***

Фота: onliner.by, Р.Хілімончык, Раман Якімаў

# 6. ЗВАРОТ СВЯТЛАНЫ ЦІХАНОЎСКАЙ ДА ТВОРЧАЙ СУПОЛЬНАСЦІ


Photo Credit: Ritzau Scanpix/AFP/Getty

***Святлана Ціханоўская*** выказала падзяку артыстам, музыкам, мастакам і ўсім дзеячам і дзяячкам культуры, якія падтрымліваюць мірны пратэст беларусаў, дома і за мяжой.
Поўны тэкст звароту чытайце па спасылцы.

**“ДЗЯКУЮЧЫ ВАМ У МІРНАГА ПРАТЭСТУ ЁСЦЬ ГОЛАС – ЁН ГУЧЫЦЬ У ВАШЫХ ВЕРШАХ. У МІРНАГА ПРАТЭСТУ ЁСЦЬ ГІМНЫ – ГЭТА ПЕСНІ, ЯКІЯ ВЫ ВЫКОНВАЕЦЕ. У МІРНАГА ПРАТЭСТУ ЁСЦЬ СІМВАЛЫ – ГЭТА ВУЛІЧНАЕ МАСТАЦТВА, ПЛАКАТЫ І МУРАЛЫ, ЯКІЯ ВЫ СТВАРАЕЦЕ. І ГАЛОЎНАЕ: У МІРНАГА ПРАТЭСТУ ЁСЦЬ МЭТА – ПАБУДАВАЦЬ НОВУЮ БЕЛАРУСЬ, ДЗЕ ЁСЦЬ СВАБОДА ТВОРЧАСЦІ, СВАБОДА СЛОВА І СВАБОДА ЧАЛАВЕКА”.**

# 6. INTERNATIONAL SOLIDARITY

У Амстэрдаме з 30 кастрычніка па 7 лістапада праходзіла ***выстава беларускага пратэстнага мастацтва***. Плакаты, малюнкі, жывы перфоманс, фота пратэстнага стрыт-арту, вокнаў, дзвярэй, двароў – падрабязнасці можна знайсці па спасылцы. Праект быў рэалізаваны на сродкі беларускай дыяспары ў Нідэрландах пры пытдрымцы ***Het Actiefonds*** і платформы ***StandByArt***.




Art Credit: Jury Toreev



4 лістапада ў Кіеве адбыўся маштабны музычны марафон "Мы разам!" прысвечаны "ўкраінскаму і беларускаму народам, якія застаюцца вернымі свайму сэрцу, шматвекавому сяброўству і імкненню да волі". Мерапрыемства было ініцыявана Мінстэрствам культуры і інфармацыйнай палітыкі Украіны і транслявалася ў наўпроставым эфіры. Сярод удзельнікаў і ўдзельніц – ***Brutto Nostra***, ***NaviBand***, ***Naka***, ***«БЕЗ ОБМЕЖЕНЬ»***, ***«Друга Ріка»***, ***«СКАЙ»***, ***«ДахаБраха»***, ***Kozak System.***



Прадстаўнікі і прадстаўніцы ***грамадзянскай супольнасці Ізраіля***, выхадцы з Беларусі, сярод якіх таксама дзеячы і дзяячкі культуры, звярнуліся да прэм’ер-міністра Ізраіля, заклікаючы яго падтрымаць пратэст беларускага народу супраць дыктатуры і не замоўчваць факты гвалту ды рэпрэсій.

***“Ізраіль – краіна, пабудаваная выжыўшымі падчас Халакосту і іх нашчадкамі. Гісторыя вучыць нас, што страшныя падзеі сярэдзіны 20 стагоддзя адбыліся на фоне ўсеагульнага маўчання,”*** – нагадваюць аўтары і аўтаркі звароту.

4 лістапада адбыўся анлайн вечар паэтычных чытанняў ***Дзмітрыя Строцава*** і яго сяброў з Беларусі, Расіі і Украіны. Паглядзець запіс можна па спасылцы

Міжнародная праваабарончая арганізацыя ***Міжнародны ПЭН-клуб*** падтрымала беларускіх дзеячаў культуры ў іх барацьбе.
***«Беларускія літаратары і мастакі знаходзяцца ў цэнтры мірнага супраціву парушэнням асноўных правоў і свабодаў. Яны выкарыстоўваюць свае літаратурныя і мастацкія творы, музыку і тэатральныя пастаноўкі для выкрыцця злоўжыванняў рэжыму Лукашэнкі. За гэта яны церпяць рэпрэсіі з боку ўладаў. Мірны пратэст і свабода творчасці неаддзельныя як і правы, якія неабходна паважаць»***, – каментуе ***Джэніфер Клеменс***, старшыня Міжнароднага ПЭНа.

У адказ на справаздачу АБСЕ ***ПЭН Амерыкі*** выпусціў заяву, у якой заклікае арганізацыю звярнуць асаблівую ўвагу на пераслед у дачыненні да культурніцкай супольнасці Беларусі.

# 8. АЎКЦЫЁН

**УСЕ СРОДКІ АД АЎКЦЫЁНАЎ БУДУЦЬ ПЕРАЛІЧАНЫЯ Ў БЕЛАРУСКІ ФОНД КУЛЬТУРНАЙ САЛІДАРНАСЦІ, СТВОРАНЫ З МЭТАЙ АКАЗАННЯ ПАДТРЫМКІ ПРАДСТАЎНІКАМ БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРНАЙ СУПОЛЬНАСЦІ, ЯКІЯ ПАЦЯРПЕЛІ ЗА СВАЮ ГРАМАДЗЯНСКУЮ ПАЗІЦЫЮ.**



Музыка ***Юрый Стыльскі*** выставіў на аўкцыён свой аўтапартрэт.



Каб падтрымаць пацярпелых дзеячаў і дзяячак культуры, лідар славутага гурта "Крама" ***Ігар Варашкевіч*** прадае сваю рарытэтную гітару, на якой сачыніў культавыя песні.1




На аўкцыён выстаўлены лот ад ***Уладзіміра Цэслера***.
Ён распрацуе эксклюзіўны лагатып дзеля арганізацыі альбо асобы.
***"Права артыста – быць вольным. Абавязак артыста – дыхаць паветрам свайго часу. Я ў захапленні ад мужнасці тых, хто сёння адстойвае не толькі сваю асабістую свабоду выбару, але і лепшую для ўсіх нас будучыню",*** – кажа ён.

Фота: tuzinFM.by

Гэты матэрыял падрыхтаваны ў супрацы *Беларускім ПЭН-цэнтрам* і *Беларускім фондам культурнай салідарнасці*.







Інфармацыйны партнёр - партал TuzinFM.by




**КАНТАКТЫ**

E-mail: BFKS2020@protonmail.com
Telegram: @by_culture
Facebook: https://www.facebook.com/bcsfbel
YouTube: http://bit.ly/youtube-byculture

**ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

